# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№1 (282)
2022 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## НАВЯДЗЕННЕ "ПАРАДКУ"

**У Бешанковіцкім раёне летась за 11 месяцаў знесена толькі чатыры старыя пустуючыя хаты. Не прададзена ніводнай.**

«Віцебскія весці» пішуць, што ў Аршанскім раёне знесены 103 пустуючыя хаты, у Сенненскім — 42, Талачынскім і Докшыцкім — па 39, у Лёзненскім — 31. Хаця, на маю думку, ганарыцца такім «подзьвігам» ня варта. Лепш праводзіць такую палітыку, пры якой пустуючых хацін будзе вобмаль.

Усяго старых і пустых хацін на канец 2021 года ў Віцебскай вобласці налічвалася больш за паўтары тысячы. Толькі ўявіце тую лічбу: 1 500 пустых хатак! Менш чым у нашым раёне знеслі такіх пабудоваў у Глыбоцкім (толькі адну хату) і Расонскім (тры хаты) раёнах. Магчыма, што ў Глыбоцкім раёне іх няшмат.

"Віцебскія весці" пішуць, што за кошт продажу пустых хат можна істотна папоўніць раённую казну. Прычым пачатковы кошт у некаторых выпадках можа складаць адну базавую велічыню.

Але прадаваліся старыя хаціны толькі ў 8 раёнах вобласці: Верхнядзвінскім, Дубровенскім, Лепельскім, Лёзненскім, Аршанскім, Пастаўскім, Сенненскім і Талачынскім.

Там было прададзена 36 пустуючых хацін на агульную суму больш за 68 тыс. руб.

Дарэчы, больш за 75% ад названай сумы ўдалося атрымаць дзякуючы рабоце мясцовых органаў улады Аршанскага раёна.

Зразумела, што кантроль за выкананнем даручэння кіраўніка дзяржавы па навядзенню парадку з пустымі жылымі дамамі ў сельскай мясцовасці аніяк не дапамог. Але ён будзе працягнуты.

**Г.Станкевіч**

СПОРТ

## ДАНІІЛ КВАЧОЎ – ЛІДАР КАМАНДЫ «МАРКА-ВДТУ»

**Нядаўна валейбалісты віцебскага «Марка-ВДТУ» занялі другое месца ў Кубку Беларусі. Гэта найлепшы вынік каманд Прыдзвінскага краю ў гэтым відзе спорту на рэспубліканскай арэне за 20 гадоў. Ды і ў чэмпіянаце краіны віцябляне выступаюць паспяхова, займаючы пасля 10-ці тураў пятае месца.**

Адным з лідэраў каманды з'яўляецца выхаванец бешанковіцкай школы валейбола Данііл Квачоў. Выступленне «Марка-ВДТУ» у стартавай палове сезоне прааналізаваў галоўны трэнер каманды Дзяніс Мацвееў.

«Фінал чатырох» праходзіў у Гомелі, і ў паўфінале нам трэба было згуляць з гаспадарамі турніру — «Энергіяй». Гэта каманда — бронзавы прызёр папярэдняга першынства краіны (сезона 2020-2021 гадоў), у цяперашнім чэмпіянаце яна таксама ўваходзіць у лідзіруючую групу. Таму мы мэтанакіравана рыхтаваліся да паўфіналу. Разумелі, што ў Гомелі нашаму саперніку будзе забяспечана істотная балельшчыцкая падтрымка. Але нашы хлопцы — малайцы, змаглі абстрагавацца ад усіх знешніх фактараў, і максімальна выкласціся на пляцоўцы, выканаўшы трэнерскую ўстаноўку.

У паўфінале мы правялі адну з найлепшых нашых гульняў у гэтым сезоне (2021-2022 гады). А на фінальную гульню з «Шахцёрам» (шматразовым чэмпіёнам Беларусі) не хапіла ні сіл, ні эмоцый.

У міжсезонне наш склад абнавіўся на 80%. Каманду пакінулі амаль усе дасведчаныя ігракі. Мы зрабілі стаўку на моладзь: на іх амбіцыі і лепшую функцыянальную гатоўнасць, чым ветэранаў. Прычым амаль усе нашы навічкі — выхаванцы спартшкол Віцебскай вобласці."

**А.Тутэйшы**
*па матэрыялах "Віцебскіх вестак"*

## КАЛІ ЎЖО?

*Зіма ўсё не хоча сыходзіць упрочкі,*
*ды дзень прыбывае, і*
*меньшаюць ночкі.*
*Абудзіць жаўрук хутка сьпевам*
*палі ўжо.*
*Калі ўжо?*

*У сьвеце пануе паўсюль пандэмія,*
*і маску замытую доктарка мые.*
*Ня мыюць іх, мусіць, нідзе*
*на зямлі ўжо...*
*Калі ўжо?!*

*Ў адной з азіяцкіх краін --*
*рэферэндум,*
*дзяржаўны гігант-карабель*
*раптам крэн даў.*
*Каманда у роспачы палубу ліжа...*
*Калі ўжо?!*

*Чырвоны і белы ня будзе зялёным!*
*У драме - апошні акт*
*перад заслонай.*
*Вісіць на сьцяне гадоў трыццаць*
*ружжо...*
*Калі ўжо?!*

*Хто мае вусы - той шавеліць вусамі.*
*Хто мае глузды - хай шавеліць*
*глуздамі.*
*"За нашу і вашу свабоду налі ўжо!"*
*Калі ўжо?!*

**Г. Станкевіч**



АКТУАЛЬНАЕ

## ХТО Ў БЕЛАРУСІ ЛІЧЫЦЦА ДАРМАЕДАМ?

**Каток рэпрэсій у Беларусі, на жаль, не толькі не спыняецца, але і набірае абароты. За апошні час былі ліквідаваныя дзясяткі, калі не сотні, арганізацый грамадзянскай супольнасці. Тысячы беларусаў вымушаныя ўцякаць за мяжу. У такой сітуацыі надзвычай востра паўстаюць пытанні аб тым, ці не будуць супрацоўнікі ліквідаваных арганізацый адразу ж лічыцца дармаедамі.**

Згодна з беларускім заканадаўствам дармаедамі не лічацца грамадзяне, якія:

1. Працуюць, знаходзяцца на дзяржаўнай службе або з'яўляюцца членамі вытворчага кааператыва або сялянскай (фермерскай) гаспадаркі.
2. З'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі.
3. Выконваюць працу па грамадзянска-прававых дамовах, прадметам якіх з'яўляецца выкананне работ, аказанне паслуг або стварэнне аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці.
4. Выконваюць іншыя віды дзейнасці і ўплочваюць адзіны падатак з ІП і іншых ФА (фізічных асобаў) — пры умове аплаты такога падатку за адпаведны перыяд.
5. Усе ваеннаслужачыя і ваеннаабавязаныя, асобы, якія праходзяць альтэрнатыўную службу — на перыяд гэтай службы.
6. Рамеснікі — пры ўмове аплаты пэўнага збору за адпаведны перыяд.
7. Асобы, якія з'яўляюцца ўласнікамі маёмасці (заснавальнікамі або ўдзельнікамі) камерцыйных арганізацый, за выключэннем акцыянерных таварыстваў.
8. Творчыя работнікі, статус якіх пацвярджаецца творчым саюзам, членам якога ён з'яўляецца, або прафесійным сертыфікатам творчага работніка.
9. Святары, асобы, якія навучаюцца ў духоўных навучальных установах.
10. Вырабнікі прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі на зямельным участку, які знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.
11. Асобы, якія зарэгістраваныя як беспрацоўныя, або праходзяць перападрыхтоўку.
12. Асобы, якія атрымліваюць адукацыю ў дзённай форме атрымання адукацыі.
13. З'яўляюцца маці або бацькам (мачахай або айчымам), усынавіцелем, апекуном або папячыцелем і якія выхоўваюць дзіця да 7 гадоў, дзіця-інваліда да 18 гадоў, тры і болей непаўналетніх дзяцей.
14. Спартсмены, уключаныя ў спісачныя склады нацыянальных і зборных каманд Рэспублікі Беларусь па відах спорту, а таксама асобы, якія з'яўляюцца спартсменамі-навучэнцамі спецыялізаваных навучальна-спартыўных установаў.
15. Інваліды, незалежна ад групы.
16. Недзеяздольныя.
17. Асобы, якія атрымліваюць даходы ад здачы ў наём жылых і нежылых памяшканняў, машына-месцаў, — пры ўмове выплаты падаходнага падатку з фізічных асоб з такога даходу.
18. Асобы, якія працуюць за мяжой.
19. Асобы, якія атрымліваюць адукацыю за мяжой у дзённай форме атрымання адукацыі.

Дакументы, якія пацвярджаюць п.п. 18, 19 прадстаўляюцца на рускай або беларускай мове, або з афіцыйным перакладам.

**budzma.org**

ЛЮДЗІ ПРЫДЗВІННЯ

## ГІСТОРЫЯ НАШАГА КАЛЕКЦЫЯНЕРА

**Рамесніка Андрэя Трубецкага ў яго родных Бешанковічах некаторыя лічаць дзіваком. Ён збірае старажытныя рэчы. Ныряе ў Дзвіну - і падымае з дна якары. Аб'язджае нава-кольныя вёскі - і бабулі аддаюць яму свае калаўроты. Прыходзіць у пункт прыёму другаснай сыравіны - і выносіць адтуль каменную сякеру з неаліту.**

У ягонай калекцыі ўжо каля 3,5 тысячы артэфактаў. Трубяцкі сур'ёзна верыць, што ўсе гэтыя прадметы жывыя: «За кожным стаіць продак, які гэтай рэччу карыстаўся. І ён мае права, каб мы, нашчадкі, пра яго памяталі».

Але вось бяда: захоўваць знаходкі, здольныя скласці цэлы музей, няма дзе. Па адукацыі Андрэй Трубецкі - фінансіст. 15 гадоў аддаў казённай службе: працаваў у «Белдзяржстраху», аблсель-гасхарчы, падатковай. Потым

*(працяг на стар. 2)*

ЛЮДЗІ ПРЫДЗВІННЯ

*(пачатак на стар. №1)*

адчыніў сваю будаўнічую фірму. Яна пратрымалася на рынку гадоў дзесяць і зачынілася. Цяпер Андрэй - рамеснік, зарабляе мастацкай коўкай. А па сумяшчальніцтве вартаўнік у вайсковай часткі: ахоўвае пантонны мост праз Заходнюю Дзвіну, які салдаты кожны год увесну ўзводзяць, а ўвосень разбіраюць.

**«У дзяцінстве сабралі з братам дзве цукарніцы старых манет»**

Андрэй ганарыцца сваім родам, прозвішчам: - Нашаму роду Трубецкіх больш за 500 гадоў. У мяне ёсць копія ліста 1501 года, дзе памешчык Вароніч просіць полацкага ваяводу аддаць яму вёску Мількавічы, якая належала князю Івану Юр'евічу Трубецкаму, які ўцёк адсюль у Маскву і перайшоў на службу да рускага цара. Думаю, гэта мой продак. Пайшоў ён адсюль, будучы Трубецкім, а Трубяцкім стаў ужо ў Расіі. Адны мае сваякі таксама змянілі прозвішча на Трубяцкой, пераконвалі і мяне гэта зрабіць. Але не. За мной стаіць некалькі пакаленняў майстравых: кавалёў, печнікаў, лодачнікаў, краўцоў. І мы на гэтай зямлі сядзім як мінімум 500 год. Гэта шмат да чаго абавязвае.

Цікавасць да краязнаўства і калекцыянавання ў Андрэя ўзнікла ў дзяцінстве: - Мне пашанцавала з настаўнікам гісторыі: у яго пад кожны параграф у падручніку былі свае апавяданні. І яны чаплялі. А яшчэ мы з пацанамі, як толькі вясной сходзіў снег, бегалі па палях, агародах, беразе рэчкі і збіралі ўсё, што выкідвала зямля і вада. Адных толькі манет у нас з братам Вовам было на дзве вялікія цукарніцы. А яшчэ знаходзілі курыльныя трубкі, дробныя ваенныя прадметы, гільзы...

**«Паднімаць якар з дна - такі азарт!»**

Дзвіна раней была галоўнай карміцелькай для жыхароў Бешанковічаў. На гербе горада - карабель: з XVII стагоддзя ў мястэчку дзейнічала буйная прыстань для гандлёвых судоў. Дно ракі ў межах горада абсыпана артэфактамі. Андрэй Трубецкі, напрыклад, знаходзіць якары.

- Я - чалавек Дзвіны. Жыву на беразе ракі, люблю за ёй назіраць. Захапляюся падводным паляваннем, спозўзаў ужо ўсё дно і нацягнуў адтуль усякага жалеза. А паднімаць наверх якары мяне натхніў сябар Саша. Бачу: плыве ён неяк на лодцы, а на карме - здаровы якар. Распавёў, што знайшоў гэты прадмет за пяць метраў ад берага. Мяне зачапіла, і я стаў мацаць па дне ўжо мэтанакіравана, каб знайсці якар. Часцей за ўсё яго апускалі пад ваду на пяньковай вяроўцы. І калі яна рвалася, якар заставаўся на глыбіні.

І рака стала дарыць упартаму дайверу цікавыя знаходкі.

- Бывае, плывеш, бачыш грудок, а гэта якар. І пайшла цяжкая праца па яго "здабычы"! 3 глею, да прыкладу, тырчыць адна "лапа", а ўсяго іх пяць. Трэба капаць грунт, варочаць камяні, дайсці да "яблыка" - месцы, дзе злучаюцца "лапы", зачапіць за яго вяроўку, выдраць якар са дна, пагрузіць на лодку.

На глыбіні працую без акваланга. Ныраю пад ваду, пакапаю ледзь-ледзь, выныраю. І так цэлы дзень -- уверх-уніз. Часам на ўздым якара сыходзіць і два дні. Затое які гэта азарт! А потым вывучаеш, што гэта за якар, хто і калі яго вырабіў.

Усяго дайвер падняў са дна 27 якароў, зробленых у XVII-XX стагоддзях. Самыя старадаўнія - каваныя, больш сучасныя - адліваныя. А самая цяжкая знаходка важыць каля 200 кг. Але гэта быў адзіны якар, які не прыйшлося раскопваць. - Ён стаяў на дне - роўненька, як лялька. Мы з сябрам Андрэем выкочвалі яго да берага. Прыйшлося пастарацца. Нырнулі, перакацілі, вынырнулі, падыхалі. І так зноў, – успамінае Трубецкі.

У 2017 годзе ў гарадскім парку Бешанковіч адкрылі незвычайную алею - на ёй восем якароў, якія знайшоў у Дзвіне Андрэй Трубецкі. Сярод іх і гэты, 200-кілаграмовы. Алея - даніна памяці землякам, «плыты якія вадзілі ў Рыгу і ахоўвалі горад ад ворагаў». Такія радкі выбіты на мемарыяльным камені.

Адзін якар Андрэй паставіў каля сваёй хаты. За метры за дзвесце ад яго — Дзвіна.

**«Пагуляць па гэтым музеі як у царкву схадзіць»**

Акрамя якароў, Андрэй калекцыянуе прылады працы. За 10 гадоў сабраў каля 3,5 тысячы артэфактаў. Гэта сякеры, гэблі, плугі, косы, сярпы, цвікі, жорны, калаўроты, шалі, швейныя машынкі - пералічваць можна доўга. "Склад старажытнасцяў" знаходзіцца ў вытворчым памяшканні, якое належала фірме Трубяцкога. Калі яна зачынілася, памяшканне перайшло да іншага ўладальніка. Але ён дазволіў Андрэю захоўваць калекцыю тут, іншага ж месца для яе пакуль няма.

- Стаў збіраць прылады працы нашых продкаў у 2012 годзе. Спачатку задумаў гэта як музей інструмента ад неаліту да сучаснасці. Пачалося ўсё з рубанкаў. А потым як стала адно за адно чапляцца - з'явіліся іншыя інструменты: сталярныя, слясарныя, кавальскія, у дадатак прыляпілася "бытавуха" (прадметы хатняга ўжытку. - Заўв. Onlíner). За кожнай рэччу стаіць чалавек, які ёй карыстаўся. І ён мае права на тое, каб аб ім памяталі. Пагуляць па гэтым музеі, лічу, як у царкву схадзіць. Там ты маеш зносіны з Богам, а тут - з продкамі. Гэта далучэнне да сваіх каранёў. Хто мы без памяці аб мінулым?

*(скарочана)*

**onlíner.by**

*(Працяг у наступным нумары)*

ЭКАНОМІКА

# «ДРАЗДЫ» АДЛЯТАЮЦЬ

**Бешанковіцкае сельгаспрадпрыемства «Драздовы-Агра» збанкрутавала.**

17-га снежня 2021 года суд разгледзеў заяву аб прызнанні прадпрыемства банкрутам і прызначыў яму месячны ахоўны перыяд. За гэты час часовы кіраўнік высветліў, што запазычанасць калгасу перад крэдыторамі складае 4 962 500 рублёў. Таму праз месяц была адкрыта конкурсная вытворчасць. Пра гэта напісалі "Народныя навіны Віцебска" https://viciebsk.cc

А яшчэ роўна чатыры гады таму (27.12.2017) цэнтральны орган урада газета «СБ» надрукавала артыкул пра тое, як 30-гадовы Аляксей Дойлін за тры гады аднавіў стратнае ААТ «Дразды-Агра» Бешанковіцкага раёна. Прыводзім яго цалкам:

«За плячыма ў 30-гадовага Аляксея Дойліна — вопыт умацавання эканомікі КСПУП „Дразды-агра" Бешанковіцкага раёна ў якасці яго кіраўніка. За 2014–2016 гады ў гэтай гаспадарцы ўдой вырас на 300 кілаграмаў, выручка павялічылася на 333 тысячы рублёў. Зараз Аляксей Дойлін — начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Сенненскага райвыканкама. Будуе планы ў маштабах далёка не самага простага рэгіёну: вырабіць як мінімум на чатыры тысячы тон малака больш. У службовым аўта на заднім сядзенні заўсёды працоўная спецвопратка. Курсіруе без стомы па раёне, каардынуе дзейнасць спецыялістаў на месцы. Бо сітуацыі розныя здараюцца, а вытворчасць не павінна спыняцца нават у мінусавую тэмпературу.» Паводле: https://www.sb.by

7-га лютага 2020 года раённая «Зара» друкуе артыкул пра Рамана Кульгавага, які ўзначальвае КСПУП «Дразды-Агра» больш за два гады, то-бок з канца 2017-га або з пачатку 2018 года. 8-га лютага 2018 года Р.Кульгавы адзначыў на гэтай пасадзе свой 30-гадовы юбілей.

Але ўжо ў лістападзе 2020 года Раман Кульгавы, які пракіраваў гаспадаркай каля трох гадоў, быў адпраўлены ў адстаўку. Замест яго быў прызначаны Вячаслаў Храмцоў, які быў зацверджаны Мікалаем Шарстнёвым на паседжанні аблвыканкама.

«Віцебскія Весці» тады напісалі так: «Придать ритмичность работе следует согласованному на должности руководителю сельхозпредприятия „Дрозды-Агро" (Бешенковичский район) Вячеславу Храмцову ...»

Але новы кіраўнік «Драздоў» асабліва тут не затрымаўся. Бо ўжо вясновую сяўбу-2021 года тут у асноўным праводзіў намеснік старшыні райвыканкама Сяргей Акуневіч, які пасля гэтага апынуўся ... старшынём Верхнякрывінскага выканкама. Мусіць, таксама не справіўся з уздымам гаспадаркі.

Сёння, калі верыць сайту Бешанковіцкага РВК, гаспадарку ачольвае зноў Дойлін, толькі не Аляксей, а Міхаіл Аляксеевіч.

Дарэчы, за апошнія чатыры гады ў Бешанковіцкім раёне змянілася тры кіраўнікі райвыканкама.

**Г.Станкевіч**

ПАЛІТЫКА

# ЦІ ПАВІННЫ БЕЛАРУСЫ БРАЦЬ ПРЫКЛАД З ІГНАТА ГРЫНЯВІЦКАГА?

**Перад самым Новым годам у Беларусі адмысловай урадавай пастановай была прынята дзяржаўная Праграма патрыятычнага выхавання насельніцтва на 2022–2025 гады.**

Здавалася б, ну нарэшце пачуты ўладай у асобе прэм'ер-міністра Рамана Галоўчанкі подумкі народныя, і пасля стольких гадоў няўцямнай нацыянальнай палітыкі дзяржава ўсё ж павернецца тварам да беларускай культуры, мовы і гісторыі. Бо без гэтых трох складнікаў пра які патрыятызм можа ісці гаворка?

З блізкім да радасці спадзевам пачаў я чытаць тую праграму, але чым болей учытваўся, тым большала маё расчараванне і мацнела перакананне, што яе распрацоўшчыкі разумеюць патрыятызм неяк аж вельмі па-свойму. Гэта як кравец узяў бы размеры на ладны мароз кажух і перашыў яго на камізэльку для хатняга ўжытку. Прычым камізэльку тую могуць надзець і гаспадар, і госці – усім яна прыйдзецца якраз.

Праграма ажно стракаціць агульнымі фразамі без якога-кольвеч канкрэтнага зместу, яны звіняць, як пустыя чаркі, куды кожны можа наліць якое заўгодна пітво: «служение народу», «культурно-историческая среда», «знание истории», «единство народа», «единые национальные ценности» і г.д. Ажно ўзнікае пытанне: для беларусаў яе пісалі ці для жыхароў якога-небудзь Сыктыўкара?

Беларуская мова ў праграме патрыятычнага выхавання не згадваецца ні разу. Ні разочку! На паперы яна мае статус дзяржаўнай, а ў рэальным жыцці, як вядома, даўно на птушыных правах – і ў кабінетах улады, і ў дзяржаўных СМІ, і ў сферы адукацыі. Асабліва гэта відно на школьнай статыстыцы: у 2001 годзе на беларускай мове навучаліся 400.869 вучняў, у 2014-м – 135.100, а ў 2020-м іх засталося толькі 107.600 (9% ад агульнай колькасці). І гэтая лідавочная русіфікацыя беларускай школы працягваецца.

Але дзяржаўная праграма патрыятычнага выхавання гэтага не ўлічвае! Дык патрыётаў якой краіны – Беларусі ці Расіі – яна будзе выхоўваць?

Ствараецца ўражанне, што праграма пісалася чыноўніцкім скорапісам, на патрэбу сённяшняга дня. Між іншым, у ёй гаворыцца: «Отличительная черта белорусского патриотизма – фокусировка на настоящем». Што гэта за патрыятызм – без ведання мовы і гісторыі? Гэта як дом, з-пад якогаасталі падмурак, ён абавязкова пахіліцца і заваліцца. Без падмурка можа стаяць хіба часовы будан, і то да першага ветру.

Што праўда, словазлучэнне «историческая память» у тэксце праграмы згадваецца неаднаразова. Але, зноў жа, што маецца на ўвазе? Неабходна «выбирать в качестве для подражания исторические личности», – прачытае ў праграме які-небудзь раённы ідэолаг і задумаецца. Якую канкрэтна гістарычную асобу трэба браць за прыклад? Каліноўскага, якога расійская ўлада павесіла? Суворава, якому ў Беларусі стаяць помнікі і якога ўзвялічвае дзяржаўны музей у Кобрыне? Ці – падымаць на шчыт Ігната Грынявіцкага, які кінуў бомбу ў цара?

Зрэшты, у такую даўнюю мінуўшчыну выканаўцам праграмы зазіраць, відаць, не прыйдзецца. Паколькі праз пару старонак агульнага малаўцямнага тэксту, як выратавальны круг, з'яўляецца і доўгачаканая канкрэтыка: «Центральное место в исторической памяти занимает Великая Отечественная война», «вклад белорусского народа в Победу – главный предмет национальной гордости».

Асмелюся выказаць здагадку: вайной усе і задаволяцца. І куратары, і выканаўцы. Паколькі наконт усяго астатняга дакладных інструкцый няма, а праявіш уласную ініцыятыву – можаш і гузака набіць.

А найбольш здзівіў мяне «сфокусированный на настоящем» наступны абзац праграмы: «Ряд иностранных государств, отвечая на вызовы, связанные с нехваткой высококвалифицированных работников и спадом численности населения, стремится приумножить свой человеческий капитал за счет трудовых резервов из Беларуси».

Але ж не чужаземцы, а беларускі Мінкульт звольніў знакамітага спевака Ілью Сільчукова з Опернага тэатра.

Не чужаземная сістэма аховы здароўя, а беларуская самахоць пазбавілася ад двух свяцілаў медыцыны – акадэміка-кардыёлага Аляксандра Мрочака і анестэзіёлага Уладзіміра Мартава.

Не чужаземныя, а беларускія сілавікі запіхнулі адну з лепшых баскетбалістак свету Алену Леўчанка на акрэсцінскія нары.

Не чужаземная, а беларуская ўлада выкінула на вуліцу тысячы спецыялістаў у розных галінах, фактычна выштурхоўваючы іх за мяжу. А вінаватымі зрабіла «ряд иностранных государств». Што называецца – з хворай галавы на здаровую.

Адным словам, прачытаў я Праграму патрыятычнага выхавання і ўздыхнуў: беларускім патрыятызмам там і не пахне. Атрымалася, як у той прыказцы: быў у царкве, а малітвы не пачуў. А так хацелася пачуць…

**Міхась Скобла**

**"Народная воля"**

ПРАЕКТ

# ІГАР БАРЫСАЎ: ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ НЕ АДПАВЯДАЕ ЧАКАННЯМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), палітолаг Ігар Барысаў выказаўся адносна праекта Канстытуцыі, які прапаноўваецца вынесці на рэферэндум.**




***Ігар, як пракаментуеце праект, які быў апублікаваны дзяржаўнымі СМІ?***

Відавочна, што фраза Аляксандра Лукашэнкі «я свой народ за цывілізаваным светам не павяду» у гэтым праекце Канстытуцыі набывае сапраўдную моц. Адзін з беларускіх прапагандыстаў падкрэсліў, што мы перастаем капіраваць іншыя практыкі арганізацыі грамадства і ствараем сваю. У гэтай сувязі я адразу ўзгадваю Муамара Кадафі з яго непаўторнай джамахірыяй. Такога палітычнага ўладкавання не было і наўрад ці будзе яшчэ хоць у адной з краін свету. Тое, што ствралася лівійскім дыктатарам як нешта арыгінальнае — атрымалася вычвурным і эксцэнтрычным. Акрамя таго, у беларускім праекце Канстытуцыі знаходзяцца агульныя рысы з кітайскай мелітакратыяй. Там таксама ёсць Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў, які мае заканадаўчыя функцыі, збіраецца раз на год і г.д. Так што назваць праект беларускай Канстытуцыі арыгінальным можна, аднак каб быць аб'ектыўным варта акрэсліць яго, як эксцэнтрычна арыгінальным.

***Якія змены прапануе зрабіць улада?***

У першую чаргу зрабіць усё магчымае, каб выключыць апанентаў з актыўнай фазы любой выбарчай кампаніі, а таксама зрабіць меншую колькасць выбарчых кампаній, праз стварэнне адзінага дня галасавання па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў і Палату прадстаўнікоў з прадаўжэннем паўнамоцтваў дзеючых дэпутатаў на 5 год. У ідэале ідэя адзінага дня галасавання добрая, аднак яна кампенсуецца эксцэнтрычнай арыгінальнасцю — выбары павінны адбывацца ў апошні тыдзень лютага. Для тых, хто займаецца выбарчымі кампаніямі не адзін год зразумела, што ніхто ў маразы не будзе займацца зборам подпісаў ці агітацыяй на вуліцы. Такім чынам гасіцца любая вулічная актыўнасць ў часе выбарчай кампаніі. Прымальнымі чысламі для адзінага дня галасавання з'яўляюцца другія, трэція, ці чацвёртыя выхадныя верасня.

Прапануюцца ўзроставыя абмежаванні да кандыдата на пасаду Прэзідэнта. Прапануецца, што з 40 год можна ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. На маю думку, гэтай нормай адсякаюцца маладыя палітычныя лідары, якія з'явіліся ў часе мінулай выбарчай кампаніі.

Акрамя таго, прапануецца абмежаванне на ўдзел у выбарах для тых, хто пэўны час жыў у іншай краіне — кандыдат на пасаду Прэзідэнта павінен пражываць на тэрыторыі Беларусі цягам апошніх 20 год. Гэта фактычна накіравана на тых, хто вымушаны быў з'ехаць з Беларусі за апошнія 1,5 гады.

Таксама прапануецца норма, аб спыненні грамадзянства. Фактычна яна дае права любога свайго палітычнага апанента пазбавіць беларускага грамадзянства і зараз яна патэнцыйна можа быць накіраваная супраць дзеячаў беларускай эміграцыі, якія стварылі свае палітычныя цэнтры. Такую норму практыкаваў нямецкі Трэці Рэйх. Варта ўзгадаць, што сацыял-дэмакрат Вілі Брант быў пазбаўлены грамадзянства, аднак пасля краху нацыскай Германіі ён здолеў стаць яе канцлерам…

***Што дзяржава гарантуе працоўным?***

У новай рэдакцыі Канстытуцыі яна ўжо не дае права прымаць удзел працоўным у кіраванні прадпрыемствамі і ўстановамі, як гэта было раней. Хоць гэта на практыцы і не выконвалася, аднак такая норма існавала.

Таксама ўводзіцца норма аб сацыяльнай адказнасці, ўнясенні пасільнага ўклада ў развіццё грамадства і дзяржавы. Гэта фактычная легалізацыя дэкрэта аб дармаедах.

Ёсць яшчэ адзін дадатак, дзе бацькі абавязаны рыхтаваць дзяцей да грамадска карыснай працы. Гэта шырокая фармулёўка. Пакуль не зразумела, што яна мае на ўвазе, але зразумела, што яна стане фармальнай нагодай, каб прыцягваць да адказнасці бацькоў за дзеянні дзяцей.

***Ці ўзмацняецца роля ідэалогіі?***

Асобным пунктам прапісваецца, што дзяржава забяспечвае захаванне гістарычнай праўды і памяці аб гераічнай перамозе беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У Беларусі гэты пункт выглядае крыху дзіўнаватым, бо Беларусь была ўцягнута ў Другую сусветную вайну ў 1939 г., а ВАВ гэта ўсяго толькі яе частка. Таму бачым, што гэта робіцца невыпадкова, а каб праваахоўным структурам развязаць больш рукі і пераследваць за гістарычныя даследванні, якія не адпавядаюць агульнай ідэалагічнай лініі. Фактычна пад гэта можна падвесці забарону на ўжыванне бел-чырвона-белага сцяга, бо раней афіцыйная прапаганда ўжо лямантавала, што нацыянальны сцяг выкарыстоўвалі калабарацыяністы, хоць доказаў гэтаму няма.

Ёсць таксама пункт, што праяўленне патрыятызма, захаванне гістарычнай памяці аб гераічным мінулым беларускага народа з'яўляюцца доўгам кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Вось у гэтым пункце, хутчэй за ўсё, будзе давацца ацэнка той ці іншай гістарычнай постаці. Напрыклад Касцюшка дрэнны, а вось Сувораў добры і г.д. Калі нешта спрабуеш даказаць адваротнае — не праяўляеш патрыятызму.

***Так а хоць што-небудзь станоўчае ў новым праекце Канстытуцыі ёсць?***

Я бы сказаў, не станоўчае, а нейтральнае, бо ўсе станоўчыя прапановы станунь пры гэтай уладзе праз праваправымяняльную практыку ў лепшым выпадку нейтральнымі.

Калі казаць з пазіцыі сацыял-дэмакратаў, то скасоўваецца тлумачэнне існуючай адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання дзяржавы. Выкрэсліваецца, што тэрыторыя дзеліцца на раёны, гарады, вобласці і іншыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі. Гэта дае магчымасць правесці рэформу і прыняць новы закон аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным абладкаванні. Мы маем такую канцэпцыю…

Уводзіцца магчымасць падаваць у суд на рашэнне і дзеянні (бяздзеянні) дзяржаўных органаў і службовых асоб, якія парушаюць правы і свабоды. Раней такога не было. Мы маем гатовы законапраект….

Прэзідэнцкія паўнамоцтвы абмяжоўваюцца двума тэрмінамі, але ёсць адна асаблівасць — Прэзідэнт можа быць старшынёй Усебеларускага народнага сходу адначасова, а тэрміны прэзідэнцкіх паўнамоцтваў могуць адлічваць наноў для таго, хто зараз займае гэтую пасаду. Гэтаксама старшыня Усебеларускага народнага сходу (будучы былым Прэзідэнтам) пажыццёва ўваходзіць у Савет Рэспублікі. Гэта дае магчымасць аднаму чалавеку сядзець на некалькіх крэслах адначасова, што канцэнтруе ў яго руках дадатковыя паўнамоцтвы….

Даюцца некаторыя нейтральныя карэкціроўкі існуючых раней пунктаў, але яны з'яўляюцца касметычнымі.

***Што можна сказаць падсумоўваючы?***

Тое, што ні старая, ні новая Канстытуцыя не аблягчаюць жыццё грамадзян. Людзі чакалі зменаў, а атрымаюць рэакцыйныя змены з яшчэ большай канцэнтрацыяй улады. Тым больш ведаючы, што «не да законаў» зараз — «не да законаў» будзе і пасля і ўсё гэта выглядае як унутраныя правілы пераразмеркавання ўлады ўнутры наменклатуры, аднак з гэтых працэсаў (стварэнне альтарнатыўных праектаў, шырокае абмеркаванне існуючага, вылучэнне ў камісіі і назіранне, свабодны і справядлівы падлік галасоў) выключаны грамадзяне і палітычныя партыі.

Усебеларускі народны сход — гэта стварэнне нейкага абсалютну, куды прапануецца загнаць прадстаўнікоў усіх трох галін улады і мясцовай вертыкалі ўлады. У ідэале ўсе гэтыя тры галіны ўлады павінны ураўнаважваць адна адну і стрымліваць, а не згладжваць супярэчнасці, бо калі іх не будзе — не будзе ні дынамікі, ні прагрэсу.

Немагчыма адказаць на пытанне — што ж гэта такое за Усебеларускі народны сход, якая гэта галіна ўлады? Трэцяя палата парламенту, ці абсалютная ўлада бюракратыі, бо нехта пака сістэмай патрапіць дэлегатам не здолее, бо відавочна, што выбары дэлегатаў будуць ускоснымі.

Адным словам нічога добрага нас у гэтай рэдакцыі Канстытуцыі не чакае. Уплываць на яе прыняцце ніхто не можа, бо пад выглядам контррэвалюцыі ўлада прасоўвае патрэбныя для яе змены.

З праектам канстытуцыйных пераўтварэнняў з пазіцыі БСДП можна азнаёміцца па спасылцы.

*(скарочана)*

**Прэс-служба БСДП**
**www.bsdp.org**

ЛІКВІДАЦЫЯ

# ВЫЖЖЕННАЯ ЗЕМЛЯ

**По состоянию на 1 января 2022 года было известно о 309 белорусских некоммерческих организациях, которых коснулась принудительная ликвидация.**

**Владимир МАКЕЙ, министр иностранных дел Республики Беларусь:**

— Кто-то говорит, что у нас диктатура, но, поверьте, мы заинтересованы в том, чтобы существовало альтернативное мнение. Более того, мы заинтересованы в том, чтобы и гражданское общество смелее высказывало какие-то свои инициативы и альтернативные точки зрения. Общеизвестно, что в споре рождается истина...

У нас готовы слушать и слышать альтернативное мнение гражданского общества. Но понятно, что это мнение должно быть конструктивным и нацеленным на сохранение государственности Беларуси, поступательное развитие государства и общества.

**БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ**

Министр иностранных дел Владимир Макей взывает: «Поверьте!» Но он не священник и не проповедник, а мы не адепты его секты, чтобы просто верить словам. Мы должны апеллировать к фактам.

А факты свидетельствуют об обратном.

Вся вторая половина минувшего года в Беларуси прошла под знаком ликвидации структур гражданского общества. Причем показательно, что еще 30 июля 2021 года Александр Лукашенко заявлял о выявлении 185 «деструктивных структур». Но в итоге план по ликвидации НГО был не только выполнен, но и существенно перевыполнен.

По состоянию на 1 января 2022 года было известно о 309 белорусских некоммерческих организациях, которых коснулась принудительная ликвидация. В маховик репрессий попали НГО вне зависимости от направления и характера деятельности. Это и культурные организации, и просветительские, и правозащитные, и экологические, и исследовательские, и по защите прав потребителей, и социальные, и другие.

Какой «деструктив» несло «Таварыства беларускай мовы», которое занималось пропагандой белорусского языка?

Что крамольного было в деятельности Союза белорусских писателей, Белорусской ассоциации журналистов, Университета имени Нила Гилевича, «Таварыства беларускай школы», Гродненского детского хосписа, курсов белорусского языка «МоваНанова» и многих-многих других?.. Они что, пропагандировали войну, раздавали наркотики, нелегально обучали взрывному делу? Они работали на благо белорусов, заполняя те ниши, до которых у государства не доходили руки. В этих организациях объединялись люди без всякого приказа, по воле души. Государство посчитало опасным именно это?

Свою пламенную речь с призывом «Поверьте!» министр Макей адресовал непонятной делегации общественных активистов из Литвы. Однако он

*(працяг на стар. 4)*

ЛІКВІДАЦЫЯ

(пачатак на стар. 3)

наверняка забыл упомянуть, что в числе прочих в Беларуси были ликвидированы и культурно-историко-просветительская городская общественная организация «Объединение литовцев «Витис» в Минске, и Лидское общественное объединение литовцев «РУТА». Причем ни к политике, ни к протестам эти организации отношения не имели, они просто пытались помочь белорусским литовцам сохранять связь со своими корнями. И это крамола? Это «деструктивная деятельность»?

Наверняка не рассказал Владимир Макей своим гостям и про то, что многие общественные организации в Беларуси теперь закрываются сами. Потому что политика государства сформулирована предельно понятно: «Не высовываться!» Государство создает условия только для тех, кто работает под его крылом и кормится с его руки. Остальные в сегодняшней Беларуси фактически причислены к врагам.

«Смелее! — говорит Макей. — Государство заинтересовано в инициативах».

При этом в Уголовном кодексе для особо инициативных уже заготовлено наказание за действия от имени незарегистрированной организации.

«Смелее! — говорит Макей. — Государство заинтересовано в альтернативной точке зрения».

При этом независимые СМИ разгромлены, объявлены экстремистскими, сайты заблокированы, многие журналисты в тюрьме либо в эмиграции.

После президентских выборов государство применило к негосударственному сектору тактику выжженной земли. А теперь министр заявляет: «Общеизвестно, что в споре рождается истина». О чем это он? О какой Беларуси? О спорах между Азарёнком и Гигиным?

Если государство заинтересовано в дискуссиях по важным вопросам, почему мы не видим этого в государственных СМИ — на ТВ, в газетах, на радио? На экранах, в эфире, на страницах изданий одни и те же надоевшие лица. Они вбивают в головы электората одни и те же демагогические мысли. Никакой полемики, никакого разномыслия, никаких свежих взглядов на происходящие события и на будущее страны.

Если в споре рождается истина, то почему к разработке проекта новой Конституции не были подключены оппоненты действующей власти? Почему дискуссионные площадки превратились в междусобойчик под надзором идеологов?

Выпустите из тюрем тех, кто не побоялся выступить против фальсификации результатов голосования на президентских выборах. Дайте гарантию безнаказанного возвращения из-за границы многих тысяч белорусов, которые из-за жутких репрессий вынуждены были уехать в разные страны. Что, мнение этих людей по судьбоносным проблемам вам, господин Макей, не интересно? Жаль, что власти, которые олицетворяете и вы, Владимир Владимирович, считают их врагами народа. Но в истории подобное встречалось. И не сделать ли нужных выводов?

Вы говорите: «Готовы слушать и слышать». Где, господин министр? В следственном изоляторе, в тюрьме, на допросе?

Без сомнения, каждому из нас хотелось бы жить в такой Беларуси, о которой говорит Владимир Макей. Но, к сожалению, пока она существует только в речах министра иностранных дел для внешней презентации.

Публикация из № 6 газеты «Народная Воля»

**www.nv-online.info**

РАСІЯ

# КРЕМЛЬ В ОВЕЧЬЕЙ ШКУРЕ

**Всё большую актуальность вновь приобретает анекдот времен гонки вооружений. Леонид Брежнев выступает в ООН и говорит: «Нам нужен мир». А потом добавляет: «Желательно весь». Примерно так сегодня выглядят внешнеполитические инициативы России.**



Кремлевские пропагандисты пытаются натянуть на медведя овечью шкуру. РИА Новости в статье «Коллективная опасность: соседи России — под ударом Запада» пишут:

*«Трупы на опустевших улицах, сожженные здания и автомобили, хаос, разбой — именно в такие витрины американские партнеры планируют превращать бывшие республики СССР. В ближайших планах наших американских партнеров — развалить абсолютно все анклавы цивилизации, еще сохранившиеся на окраинах бывшего СССР».*

Ни единого доказательства существования этих темных планов по традиции не приводится. Зато на контрасте малюется «светлый образ»:

*«Это русские заинтересованы в том, чтобы вдоль их границ цвели сто цветов и мирно жили сильные и независимые государства. Несмотря на все легенды и мифы национальных окраин, именно Россия веками несла цивилизацию в эти богом забытые уголки Земли. И только она заинтересована сегодня в том, чтобы обеспечивать их безопасное развитие. Для наших западных партнеров все это просто недогосударства».*

О да, так «несла цивилизацию» (одни сталинские репрессии чего стоят), что многие «осчастливленные» при первой возможности стали дистанцироваться от России и искать счастья в Евросоюзе или где-нибудь еще. И это неудивительно: ведь даже в цитируемом абзаце сквозит имперское высокомерие по отношению к соседям: «национальные окраины», «богом забытые уголки Земли»!

Кто считает Беларусь, Украину и далее по списку «недогосударствами» вполне очевидно из высказываний высшего российского руководства. *«Западным партнерам» пытаются приписать сказанное как раз Владимиром Путиным:* ***«Украина — это даже не государство!»***

Да и само РИА Новости в другой статье пишет:

*«Восстановление геополитического контроля России над постсоветским пространством действительно произойдет — можно называть это возрождением СССР, мы же будем говорить о строительстве Евразийского союза… Потому что восстановление российского геополитического пространства (не говоря уже о возвращении Украины) — это не прихоть Путина и не гегемонистские замашки Москвы, а восстановление естественного хода отечественной истории. Мы ничего ни у кого не забираем, мы лишь восстанавливаем временно утраченное».*

Овечья шкура быстро треснула по шву и из-под неё проступили хорошо знакомые очертания хищника. Все постсоветские государства, по версии агентства, это не более, чем «временно утраченное российское геополитическое пространство». С таким отношением стоит ли удивляться, что соседи смотрят на Кремль, как минимум, настороженно. Испортить, если не навсегда, то очень надолго, отношения с Украиной – это надо было умудриться. И сейчас, конечно, можно бахвалиться о её возвращении на бумаге, однако на практике миссия выглядит невыполнимой.

Остаются, конечно, чисто силовые методы. Но как они стыкуются с образом «миротворца»? Оказывается, легко – даже в рамках одной статьи.

*«Москва три десятилетия стремится к снижению военной напряженности в Европе и в мире, – утверждает Спутник-Беларусь. – Вашингтон 30 лет безрассудно подталкивает Североатлантический альянс к расширению на восток и военному освоению постсоветского пространства, включая Украину. На этом историческом фоне постоянный представитель США при НАТО Джулианна Смит 10 января заявила: «Россия, по сути, была главной угрозой европейской безопасности в последние два десятилетия». Не пора ли вызывать «санитаров» из ведомства Сергея Шойгу?*

*РФ оставляет за собой суверенное право на односторонние военные меры для защиты национальной безопасности».*

«Снижение военной напряженности» посредством «односторонних военных мер» – неплохо, да? Откусить Крым у Украины и потом деланно возмущаться, что Россию считают главной угрозой европейской безопасности? Рядиться в тогу миротворца и грозить отправкой своих военных к постпреду США при НАТО? Тут «санитары» нужны, возможно, тому, у кого всё это умещается в одной голове и заметке.

А вот прекрасный пример, когда цели и задачи формулируются без обиняков и условностей. Телеграм-канал Россия – не Европа требует:

*«Россия должна ликвидировать опасность включения Украины в НАТО «операцией принуждения к миру», «благо» ВСУ постоянно стреляют по Донбассу, где проживает уже 600 тыс. россиян, гибнут люди. На этот раз нельзя остановиться, как остановились в 2008 г. в Грузии. Пункт остановки – венгерская и польская границы. Никаких планов на отказ от Западной Украины не должно быть».*

Тут волк уже даже не пытается маскироваться. Можно, конечно, попытаться списать агрессивные устремления на частное мнение автора канала. Но российские государственные мужи выражаются не менее агрессивно. В январе вице-спикер Госдумы Петр Толстой заявил, что Россия должна быть восстановлена в границах Российской империи. Причем речь шла не только об Украине, но и о Финляндии!

Но результат «боевых действий», которые ведут «батальоны политруков» – обратный. Нейтральная Финляндия задумалась о вступлении в НАТО. Да и другие государства перспектива войти в состав империи не соблазняет.

«Кремлевские соловьи» оказывают своим хозяевам медвежью услугу. Такая пропаганда не способна овладеть ни умами, ни сердцами.

**Михаил Брошин**

**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.1.2022 у 15.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.